

# БЕЛАРУСКІЯ СТАРОНКІ ВІЛЬНІ
# VILNIAUS GUDŲ PUSLAPIAI

## Адукацыя
## Mokslas ir švietimas

Вільня 2012
Vilnius 2012

## Ад аўтара:

Дадзены нумар інфармацыйна-турыстычнага выдання створаны адмыслова для азнаямлення з гісторыяй беларускіх адукацыйных установ у Вільні. Вы можаце пазнаёміцца з кароткай гісторыяй утварэння і дзейнасці беларускіх адукацыйных установ у Вільні, пабачыць сённяшні стан беларускай сярэдняй і вышэйшай адукацыі.

У дапамогу да тэкстаў на беларускай і літоўскай мовах – шырокая падборка фотаздымкаў і мапаў-схемаў.

Жадаем вам прыемнага падарожжа па месцах атрымання ведаў нашымі землякамі.

## Autoriaus pratarmė:

Šis informacinio pobūdžio leidinys skirtas susipažinti su gudų švietimo įstaigomis Vilniuje. Jūs susipažinsite su trumpa gudų švietimo įstaigų kūrimo ir veiklos istorija, dabartine gudų vidurinio ir aukštojo mokslo būkle.

Prie teksto gudų ir lietuvių kalbomis pridedama gausybė nuotraukų ir žemėlapių.

Linkime malonios kelionės po vietas, kur mūsų kraštiečiai semiasi žinių.

# Мапа / Žemėlapis

1. Віленскі ўніверсітэт
   Vilniaus universitetas
2. Літоўскі ўніверсітэт эдукалогіі
   Lietuvos edukologijos universitetas
3. Віленская беларуская гімназія
   Vilniaus gudų gimnazija
4. Віленская сярэдняя школа імя Францыска Скарыны
   Vilniaus Pranciškaus Skorinos vidurinė mokykla
5. Інтэрнат Віленскай беларускай гімназіі
   Vilniaus gudų gimnazijos bendrabutis
6. Дамы марыянаў
   Marijonų namai
7. Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (ЕГУ)
   Europos humanitarinis universitetas (EHU)
8. Офіс ЕГУ ў 2005–2008 гг.
   EHU būstinė 2005–2008 m.
9. Офіс ЕГУ з 2008 г.
   EHU būstinė 2008 m.




Віленскі ўніверсітэт
Vilniaus universitetas

Віленскі ўніверсітэт быў заснаваны яшчэ ў далёкім 1579 годзе, калі Стэфан Баторый сваім спецыяльным загадам надаў езуіцкаму калегіуму статус акадэміі. Для навакольных земляў Вялікага Княства Літоўскага, а пасля і Рэчы Паспалітай гэта была вельмі важная адукацыйная інстытуцыя. Час ішоў, назвы мяняліся. Адукацыйная ўстанова перажыла некалькі трансфармацый і ўрэшце на месцы былой Віленскай акадэміі паўстаў імператарскі Віленскі ўніверсітэт. Паводле загаду расійскага імператара Аляксандра І ад 1803 года і згодна з законамі таго часу Віленскі ўніверсітэт стаў галоўным у сваёй адукацыйнай акрузе. Дадзеная акруга была досыць вялікай. Туды ўваходзілі тэрыторыі ўсёй Беларусі, Літвы, а таксама некалькі ўкраінскіх губерняў. Пасля 1807 года да Віленскай адукацыйнай акругі далучылі і Беластоцкую вобласць. Такім чынам ужо ў пачатку XIX стагоддзя ў беларусаў, літоўцаў, палякаў і іншых народаў з’явіўся досыць моцны адукацыйны цэнтр, які знаходзіўся ў Вільні.

Vilniaus universitetas įsteigtas 1579 metais, kai Steponas Batoras specialiu įsaku suteikė jėzuitų kolegijai akademijos statusą. Aplinkinėms tuometės Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės, o paskui ir Abiejų Tautų Respublikos žemėms tai buvo ypatingos svarbos mokslo įstaiga. Laikas bėgo, keitėsi pavadinimai, kol pagaliau buvusios Vilniaus akademijos vietoj atsirado imperatoriškasis Vilniaus universitetas. Rusijos imperatoriaus Aleksandro I įsaku ir pagal anų laikų įstatymus Vilniaus universitetas tapo pagrindinis savo švietimo apygardoje. Ši apygarda buvo gana didelė. Jai priklausė visos Gudijos, Lietuvos, taip pat kelių Ukrainos gubernijų teritorijos. Po 1807 metų į Vilniaus švietimo apygardą įtraukta ir Balstogės sritis. Taigi jau XIX amžiaus pradžioje lietuviai, gudai, lenkai ir kitos tautos turėjo gana stiprų aukštojo mokslo centrą Vilniuje.



Унутраны дворык Віленскага ўніверсітэта
Vilniaus universiteto vidaus kiemas

Менавіта пачынаючы ад моманту надання яму ў 1803 годзе статуса “імператарскага ўніверсітэта” Віленскі ўніверсітэт перажывае сваю “залатую эпоху”. У гэтай установе атрымліваюць вышэйшую адукацыю тысячы маладых людзей, сярод якіх шмат паходзіла з сённяшняй тэрыторыі Беларусі, напрыклад:

Адам Міцкевіч – выдатны паэт, родам з Навагрудскага раёну,

Тэадор Нарбут – таленавіты інжынер, даследчык і гісторык, родам з Воранаўскага раёну,

Ігнат Ходзька – пісьменнік, родам з Вілейскага раёну,

Тамаш Зан – кіраўнік патаемных студэнцкіх арганізацый, родам з Маладзечанскага раёну,

Ян Чачот – пісьменнік, мовазнавец і фалькларыст, родам з Карэліцкага раёну,

Ігнат Дамейка – выдатны навуковец: геолаг, географ, рэктар Чылійскага ўніверсітэта, родам з Карэліцкага раёну.

Спіс выпускнікоў можна працягваць яшчэ доўга. Памежныя землі Беларусі і Літвы далі цэлае сузор’е найвыдатнейшых дзеячаў культуры, навукі, палітыкі. Кожны з іх абраў свой адметны шлях, але ўсіх іх аб’яднаў Віленскі ўніверсітэт.

Нельга не адзначыць і прафесараў ды выкладчыкаў Віленскага ўніверсітэта, якія сталі інтэлектуальнай элітай грамадства. Гэтыя людзі выпусцілі са сцен універсітэта пакаленне перамен, пакаленне “залатой” інтэлігенцыі.

Nuo 1803 metų, kai buvo suteiktas „imperatoriškojo“ titulas, Vilniaus universitetui prasidėjo „aukso amžius“. Šioje mokslo įstaigoje išsilavinimą gauna tūkstančiai jaunų žmonių, tarp jų – daug kilusių iš Gudijos. Paminėkime tik kai kuriuos:

Adomas Mickevičius – žymus poetas, gimė prie Naugarduko,

Teodoras Narbutas – talentingas inžinierius, istorijos tyrinėtojas, gimė prie Voranavo,

Ignacas Chodzka – rašytojas, gimė prie Vilejko,

Tomas Zanas – slaptų studentų organizacijų vadovas, gimė prie Maladečno,

Jonas Čečiotas – rašytojas, kalbininkas ir tautosakininkas, gimė prie Karelos,

Ignotas Domeika – garsus mokslininkas, geologas, geografas, Čilės universiteto rektorius, gimė prie Karelos.

Absolventų sąrašą galima tęsti be galo. Gudijos ir Lietuvos pasienis pasauliui davė visą kultūros, mokslo ir politikos veikėjų žvaigždyną. Kiekvienas pasirinko savo kelią, bet visus vienijo Vilniaus universitetas.

Negalima nepažymėti ir universiteto profesorių, ir dėstytojų, kurie tapo intelektualiniu visuomenės elitu. Jie universitete išugdė permainų kartą, „auksinės“ inteligentijos kartą.

Колькасць студэнтаў з 1803 па 1830 год павялічылася ў некалькі разоў. Калі ў 1803 годзе іх было некалькі сотняў, то ўжо перад закрыццём універсітэта іх было больш за тысячу.

Пасля прадстаўнічага ўдзелу як студэнтаў, так і выкладчыкаў у паўстанні 1830–1831 гг. Віленскі ўніверсітэт па загадзе Мікалая I быў зачынены і толькі ў пачатку XX стагоддзя аднавіў нармальную працу.

На сённяшні момант Віленскі ўніверсітэт – адзін з найбуйнейшых універсітэтаў Літоўскай Рэспублікі.

Studentų skaičius nuo 1803 iki 1830 metų išaugo kelis kartus. 1803-aisiais jų tebuvo keli šimtai, o jau prieš uždarant universitetą – daugiau kaip tūkstantis. Dėl studentų ir dėstytojų dalyvavimo 1830–1831 metų sukilime Vilniaus universitetas Nikolajaus I įsakymu buvo uždarytas ir vėl pradėjo normaliai veikti tik XX a. pradžioje.

Šiuo metu Vilniaus universitetas yra vienas pagrindinių Lietuvos Respublikos universitetų.



Касцёл Св. Яна. Універсітэцкі касцёл
Šv. Jonų bažnyčia. Vilniaus universiteto bažnyčia

# Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры філалагічнага факультэта Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі

# Lietuvos edukologijos universiteto Filologijos fakulteto Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centras




Літоўскі ўніверсітэт эдукалогіі
Lietuvos edukologijos universitetas

Час не стаіць на месцы, і шматлікія рэчы мяняюцца. Традыцыі нацыянальнай беларускай вышэйшай адукацыі ў Вільні працягвае іншая навучальная ўстанова – Літоўскі ўніверсітэт эдукалогіі (раней – Віленскі педагагічны ўніверсітэт). Менавіта там дзейнічае Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры. Пра яго і пойдзе далей размова.

Навошта ў сучаснай Літве ствараць беларускія адукацыйныя ўстановы? Адказ вельмі просты: гэта патрабаванне грамадства. На сённяшні момант беларусы ў Літве з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю. Безумоўна, нацыянальная меншасць мае права на стварэнне ўласных адукацыйных устаноў, і беларусы, як і іншыя нацыянальныя меншасці, – не выключэнне.

Таму згодна з Пастановай ураду Літоўскай Рэспублікі ад 31 ліпеня 1991 года на факультэце славістыкі Віленскага педагагічнага інстытута была створана кафедра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры.

У 2009 годзе яна была рэарганізавана ў Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры.

На сённяшні момант Цэнтр – адзінае месца ў Літве, дзе ажыццяўляецца падрыхтоўка спецыялістаў-беларусістаў.

Цэнтр адыграў значную ролю ў адкрыцці сярэдняй беларускай школы ў Вільні, аднаўленні дзейнасці Таварыства беларускай школы. У Віленскім педагагічным універсітэце па ініцыятыве Цэнтра была створана адмысловая іменная аўдыторыя (аўдыторыя імя Ф. Скарыны).

Laikas nestovi vietoje, ir daug kas kinta. Nacionalinio gudų aukštojo mokslo Vilniuje tradiciją tęsia kita mokslo įstaiga – Lietuvos edukologijos universitetas. Būtent jame įsikūręs Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centras. Apie jį toliau ir kalbėsime.

Kam šiandienėje Lietuvoje kurti gudų švietimo įstaigas? Atsakymas labai paprastas – jų reikia piliečiams. Gudai yra viena iš Lietuvos tautinių mažumų. Be abejo, tautinė mažuma turi teisę turėti savo mokslo institucijas, ir gudai, kaip ir kitos mažumos, nėra išimtis. Taigi Vilniaus pedagoginiame universitete buvo įsteigta Gudų filologijos katedra.

Ji įkurta Slavistikos fakultete Lietuvos Respublikos Vyriausybės 1991 m. liepos 31 d. nutarimu. Pagrindiniai jos įsteigimo tikslai buvo du: patenkinti gudų tautinės mažumos interesus ir plėtoti Lietuvos ir Baltarusių mokslo ir kultūros ryšius.

2009 metais Baltarusių filologijos katedra pertvarkyta į Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centrą. Šiuo metu Centras yra vienintelė vieta Lietuvoje, kur rengiami gudų kalbos, literatūros ir etnokultūros specialistai. Mokslinė programa vykdoma pagal Vilniaus pedagoginio universiteto Senato suderintą modelį. Šiuo metu jis pildomas ir koreguojamas.

Centras suvaidino ne paskutinį vaidmenį, kad būtų atidaryta gudų vidurinė mokykla Vilniuje ir atnaujinta Gudų mokyklos draugijos veikla. Centrui inicijavus, VPU buvo atidaryta vardinė Pranciškaus Skorinos auditorija.



Будынак Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі
Lietuvos edukologijos universiteto pastatas

Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры мае наладжаныя стасункі з ВНУ Беларусі, Украіны, Расіі, ЗША, Польшчы, Славакіі і Англіі. Менавіта ён быў адным з ініцыятараў адкрыцця аддзялення літуаністыкі ў БДПУ імя М. Танка, што вельмі важна для акадэмічнай супольнасці Літвы і яе кантактаў з Беларуссю.

Дапамогу ў дзейнасці Цэнтра аказвае Міністэрства адукацыі Беларусі і амбасада Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы.

Адукацыйныя праграмы Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры:

– Беларуская філалогія – бакалаўр.

Мэта навучальнай праграмы – падрыхтоўка бакалаўраў і выкладчыкаў як універсальных спецыялістаў-філолагаў.

– Прыкладная лінгвістыка і міжкультурная камунікацыя – магістр.

Мэта навучальнай праграмы – падрыхтоўка філолагаў-магістраў, якія могуць паспяхова ўдзельнічаць у прафесійнай гуманітарнай дзейнасці, у тым ліку міжнароднай, займацца навуковымі даследаваннямі ў галіне культуры, валодаюць сучаснымі навуковымі і камунікацыйнымі тэхналогіямі.

Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centras palaiko glaudžius ryšius su Gudijos, Ukrainos, Rusijos, JAV, Lenkijos, Slovakijos ir Anglijos aukštosiomis mokyklomis. Būtent jis prisidėjo prie lituanistikos katedros Gudijos Maksimo Tanko valstybiniame pedagoginiame universitete, labai svarbios Lietuvos akademinės bendruomenės ryšiams su Gudija, steigimo.

Šiuo metu pagalbą Centrui teikia Gudijos švietimo ministerija ir Gudijos Respublikos ambasada Lietuvoje.

Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centro švietimo programos:

– Baltarusių filologija – bakalauras.

Programos tikslas – rengti bakalaurus, kaip universalius filologijos specialistus.

– Taikomoji lingvistika ir tarpkultūrinė komunikacija – magistras.

Programos tikslas – rengti filologijos magistrus, galinčius sėkmingai dalyvauti profesionalioje humanitarinėje veikloje, įskaitant tarptautinę; taip pat rengti studentus, gebančius vykdyti mokslo tyrimus kultūros srityje ir turinčius šiuolaikinio mokslo bei komunikacijos technologijų žinių.




Будынак Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі
Lietuvos edukologijos universiteto pastatas

На дзённым і завочным аддзяленнях па спецыяльнасці “беларуская філалогія” навучаецца каля 200 студэнтаў, сярод якіх не толькі беларусы, але і студэнты з іншых краін. Прыём на дзённае аддзяленне ажыццяўляецца адзін раз на тры гады, а на завочнае – штогод. За гады дзейнасці спецыяльнасць “беларуская філалогія” атрымала больш за 300 чалавек.

Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры займаецца навуковай і выдавецкай дзейнасцю.

Супрацоўнікі і навучэнцы Цэнтра распрацоўваюць навучальныя праграмы і стандарты па беларускай мове, займаюцца праблемамі выкладання беларускай мовы ў іншамоўным асяроддзі, праводзяць навуковыя канферэнцыі і кансультацыі па разнастайных культурных пытаннях, звязаных з Беларуссю, удзельнічаюць у распрацоўцы навуковых праграм і канцэпцый па рэгламентацыі жыццядзейнасці нацыянальных меншасцяў. Навуковы напрамак – беларуская культура і мова ў Літве і іх трансфармацыя праз беларуска-літоўскае і полікультурнае памежнае ўзаемадзеянне.

Baltarusių filologijos specialybės dieninėse ir neakivaizdinėse studijose mokosi apie 200 studentų, tarp jų – ne tik gudai, bet ir kitų tautų atstovai. Į dienines studijas priėmimas vyksta kartą per trejus metus, o į neakivaizdines – kasmet. Nuo veiklos pradžios gudų filologijos specialybė suteikta daugiau kaip 300 žmonių.

Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centras vykdo mokslinę ir leidybinę veiklą.

Centro darbuotojai ir studentai kuria gudų kalbos ugdymo programas ir standartus, ieško būdų veiksmingai dėstyti gudų kalbą kitakalbėje aplinkoje, rengia mokslines konferencijas ir konsultacijas įvairiais su Gudijos kultūra susijusiais klausimais, dalyvauja kuriant mokslo programas ir koncepcijas tautinių mažumų gyvenimo reglamentavimo klausimais. Bendra mokslinė darbo kryptis yra gudų kultūra ir kalba Lietuvoje, jų transformacija gudų, lietuvių ir kitų kultūrų sąveikoje.

Яшчэ адным культавым месцам беларускай адукацыі ў Вільні з'яўлялася Віленская беларуская гімназія, якая пачала сваю дзейнасць у 1919 годзе. Яна знаходзілася ў вельмі значным для беларусаў месцы – Базыльянскіх мурах.

Базыльянскія муры – гэта беларуская "культурная Мека" пачатку XX ст. Акрамя гімназіі, тут месціліся шматлікія беларускія арганізацыі, беларускі музей і шмат іншых установаў.

Перыяд гісторыі, у які працавала гімназія, быў нестабільны і цяжкі. Вучыць дзяцей ва ўмовах таго часу было вельмі складана. Розныя акупацыйныя ўлады па-рознаму ставіліся да працы гэтай навучальнай установы. Праз розныя складанасці даводзілася некалькі разоў мяняць юрыдычны ды адукацыйны статусы, але гімназія не спыняла свае працы.

Dar viena „kultinė“ gudų švietimo Vilniuje vieta buvo Vilniaus gudų gimnazija. Ši mokslo įstaiga pradėjo veikti 1919 metais. Gimnazija tuo metu veikė gudams labai reikšmingoje vietoje – Bazilijonų vienuolyne (Aušros Vartų g.).

Vad. Bazilijonų mūrai – tai XX a. pr. gudų „kultūros Meka“. Čia gyvavo daugybė gudų organizacijų, gudų muziejus, gudų gimnazija ir daug kitų įstaigų.

Gimnazijai teko veikti labai nestabiliais ir sunkiais laikais. Mokyti vaikus anų laikų sąlygomis buvo labai sudėtinga. Įvairios okupacinės valdžios įvairiai vertindavo šios mokyklos darbą. Dėl įvairių sunkumų teko keliskart keisti teisinį ir mokslinį statusą.

Са сцэнаў гімназіі выйшла шмат будучых выбітных дзеячаў нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Дзякуючы досыць моцнаму на той час выкладчыцкаму складу гімназіі, сярод якіх былі Францішак Аляхновіч (драматург, тэатральны дзеяч), Радаслаў Астроўскі (грамадска-палітычны дзеяч), Максім Гарэцкі (літаратурны крытык, фальклярыст), Язэп Драздовіч (беларускі мастак), Барыс Кіт (грамадскі дзеяч), браты Луцкевічы ("бацькі" беларускай незалежнасці), Адам Станкевіч (каталіцкі святар, грамадска-палітычны дзеяч), Рыгор Шырма (грамадска-культурны дзеяч) і шмат іншых, Віленская беларуская гімназія дала магчымасць сотням яе вучняў атрымаць добрую сярэднюю адукацыю.

Варта адзначыць і некаторых выпускнікоў гэтай гімназіі, што зрабілі значны ўнёсак у развіццё беларускай культуры, палітыкі, дзяржаўнасці:

– Наталля Арсеннева (паэтка, перакладчык, літаратар);

– Міхал Вітушка (палітычны дзеяч, кіраўнік антысавецкага супраціву на Беларусі);

– Юрый Луцкевіч (актыўны ўдзельнік беларускага антысавецкага супраціву);

– Мар'ян Пецюкевіч (беларускі этнограф, педагог);

– Лявон Рыдлеўскі (грамадска-палітычны дзеяч);

– Максім Танк (Народны паэт Беларусі);

– Ян Станкевіч (беларускі мовазнавец, гісторык, доктар філасофіі).

Спіс выпускнікоў можна працягваць яшчэ вельмі доўга.

Gimnazija išugdė daug būsimų iškilių Gudijos tautinio atgimimo veikėjų.

Stiprūs buvo tų laikų gimnazijos dėstytojai. Tokios asmenybės kaip Franciškus Aliachnovičius (dramaturgas, teatro veikėjas), Radaslavas Astrouskis (visuomenės ir politikos veikėjas), Maksimas Hareckis (literatūros kritikas, tautosakininkas), Juozapas Drazdovičius (gudų tapytojas), Borysas Kitas (visuomenės veikėjas), broliai Luckevičiai (Gudijos nepriklausomybės „tėvai“), Adamas Stankevičius (katalikų kunigas, visuomenės ir politikos veikėjas), Ryhoras Šyrma (visuomenės ir kultūros veikėjas) bei daugelis kitų lėmė, jos Vilniaus gudų gimnazija suteikė galimybę šimtams jos mokinių gauti gerą vidurinį išsilavinimą.

Galima pažymėti ir kai kuriuos šios gimnazijos auklėtinius, kurie vėliau prisidėjo prie gudų atgimimo:

– Natallia Arsenjeva (poetė, vertėja, literatė);

– Michalas Vituška (politikos veikėjas, antisovietinės rezistencijos Gudijoje vadovas);

– Juryjus Luckevičius (aktyvus gudų antisovietinės rezistencijos dalyvis);

– Marjanas Peciukevičius (gudų etnografas, pedagogas);

– Liavonas Rydleuskis (visuomenės politikos veikėjas);

– Maksimas Tankas (gudijos liaudies poetas);

– Jonas Stankevičius (gudų kalbininkas, istorikas, filosofijos daktaras).

Absolventų sąrašą galima dar tęsti labai ilgai.

У 1944 годзе па загадзе савецкіх уладаў гімназія была зачынена. Лёс выкладчыкаў ды выпускнікоў гімназіі склаўся па-рознаму.

У Вільні захаваўся і будынак студэнцкага інтэрната Віленскай беларускай гімназіі, які знаходзіўся недалёка ад гарадской ратушы (Didžioji g.30).

1944 m. tarybų valdžios įsakymu gimnazija buvo uždaryta. Mokytojų ir mokinių likimai susiklostė labai įvairiai.

Vilniuje išliko pastatas, kuriame buvo įsikūręs Vilniaus gudų gimnazijos studentų bendrabutis. Jis yra netoli miesto rotušės (Didžioji g.30).




Інтэрнат Віленскай беларускай гімназіі
Viliniaus gudų gimnazijos bendrabutis

Віленская сярэдняя школа імя Францыска Скарыны
Vilniaus Pranciškaus Skorinos vidurinė mokykla



У савецкі перыяд беларуская адукацыя не была актуальнай для Вільні з розных прычынаў, але з таго моманту, як савецкі рэжым пачаў слабець і здаваць свае пазіцыі, размовы пра аднаўленне славутых традыцый Віленскай беларускай гімназіі набывалі сваіх прыхільнікаў. Працэсы адраджэння незалежнасці Літвы ды Беларусі дыктавалі свае ўмовы. Ужо ў пачатку 1990-х гадоў у адной з віленскіх школ пачаў працаваць клас з беларускай мовай навучання. Цягам невялікага адрэзку часу была створана адмысловая камісія, мэтай якой было аднаўленне беларускай гімназіі ў Вільні ўжо ў найноўшы час, а значыць, працяг яе славутых традыцый.

Sovietmečiu gudų švietimas Vilniuje nebuvo aktualus dėl įvairių priežasčių. Tačiau sovietų režimui pradėjus silpti ir trauktis, kalbos apie šlovingų gudų gimnazijos tradicijų atgaivinimą sulaukė vis daugiau šalininkų. Lietuvos ir Gudijos nepriklausomybės atgimimo procesai diktavo savo sąlygas. Jau paskutinio XX a. dešimtmečio pradžioje vienoje iš Vilniaus mokyklų pradėjo veikti klasė su gudų dėstomąja kalba. Per trumpą laiką buvo sudaryta speciali komisija, kuriai, kad būtų tęsiama tradicija, buvo pavesta Vilniuje atkurti gudų gimnaziją.



Перад пачаткам заняткаў
Kas vyko prieš pamoką

Вялікі кавалак арганізацыйнай і агітацыйнай працы на сябе ўзялі кафедра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Віленскага педагагічнага ўніверсітэта, Таварыства беларускай школы і Таварыства беларускай культуры, у выніку чаго 1 верасня 1993 года адбылося адкрыццё ўжо дзвюх беларускіх паралеляў у віленскіх школах № 13 і № 17. Летам 1994 года была юрыдычна аформлена сярэдняя школа № 68, ужо з асобным будынкам.

Значна паўплывалі на адкрыццё сярэдняй школы такія фактары, як прагрэсіўныя дзяржаўныя праграмы Літоўскай Рэспублікі ў галіне нацыянальнай адукацыі, міжнародныя адукацыйныя стандарты, славутыя традыцыі Віленскай беларускай гімназіі, міжкультурныя стасункі паміж Літвой і Беларуссю.

Пазней да гэтага быў дададзены яшчэ адзін істотны факт: школа пачала насіць назву знакамітага асветніка Францыска Скарыны, што дадало адказнасці як настаўнікам, так і школьнікам.

Didelę organizacinio ir agitacinio darbo dalį apsiėmė atlikti Lietuvos edukologijos universiteto Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centras, Gudų mokyklos draugija ir Gudų kalbos draugija. 1993 m. rugsėjo 1-ąją jau veikė dvi klasės gudų dėstomąja kalba: Vilniaus 13-ojoje ir 17-ojoje mokyklose. 1994-ųjų vasarą jau atskirame pastate buvo įsteigta 68-toji vidurinė mokykla.

Tam, kad buvo įsteigta mokykla, didelės įtakos turėjo tokie veiksniai kaip progresyvios valstybinės Lietuvos Respublikos programos tautinio švietimo srityje, tarptautiniai švietimo standartai, garsios Vilniaus gudų gimnazijos tradicijos, tarpkultūriniai Lietuvos ir Gudijos santykiai.

Vėliau mokyklai buvo suteiktas iškilaus švietėjo Pranciškaus Skorinos vardas. Tai buvo reikšmingas įvykis, dar labiau įpareigojęs ir mokytojus, ir moksleivius.

У школе ёсць Рада, якая з’яўляецца найвышэйшым органам самакіравання школы і рэгламентуе школьнае і пазакласнае жыццё. У яе склад уваходзіць 15 чалавек: 5 настаўнікаў, 5 вучняў, 5 бацькоў.

Бацькоўскі камітэт – гэта інстытуцыя самакіравання, якая аб’ядноўвае бацькоў для вырашэння актуальных пытанняў працы школы, уносіць прапановы па ўдасканаленні культурнай дзейнасці, дапамагае арганізаваць школьныя святы, абмяркоўвае матэрыяльную дапамогу школе.

Калектыў школы – каля 30 настаўнікаў – прыкладае вялікія намаганні для таго, каб дзеці мелі магчымасць атрымаць сучасную адукацыю. Па стане на 2011 год колькасць вучняў складае прыкладна 185 чалавек. За час працы школу закончыла некалькі сотняў вучняў.

Школа валодае досыць вялікай бібліятэкай. Акрамя таго, тут можна бясплатна карыстацца інтэрнэтам.

У 2002 годзе ў школе быў адкрыты невялічкі школьны музей беларускай літаратуры і мастацтва. Тут можна знайсці шмат карысных кніг, рукапісаў, фотаздымкаў і іншых цікавых рэчаў. У музеі праходзяць сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі, мастакамі, навукова-практычныя канферэнцыі, семінары, заняткі па беларускай літаратуры.

Mokykla turi savo Tarybą. Tai svarbiausia mokyklinės savivaldos institucija, kuri reglamentuoja ir pamokinę, ir popamokinę veiklą. Tarybą sudaro 15 narių: 5 mokytojai, 5 mokiniai ir 5 tėvų atstovai.

Taip pat mokykloje veikia mokinių tėvų komitetas. Tai irgi mokyklos savivaldos institucija, kurią sudaro mokinių tėvai. Komitetas sprendžia aktualius mokyklai klausimus, teikia pasiūlymus dėl mokyklos kultūrinės veiklos tobulinimo, padeda organizuoti šventes, svarsto mokyklos materialinio rėmimo klausimus.

Mokyklos kolektyvą sudaro apie 30 mokytojų. Kolektyvas deda visas įmanomas pastangas, kad vaikai gautų šiuolaikinį išsilavinimą. 2011 m. mokykloje mokėsi apie 185 mokinių. Per visą mokyklos gyvavimo laikotarpį buvo išleista keli šimtai mokinių.

Mokykla turi nemažą biblioteką. Be to, čia galima nemokamai naudotis internetu.

2002 m. mokykloje atidarytas nedidelis gudų literatūros ir meno muziejus. Jame nemažai naudingų knygų, rankraščių, nuotraukų ir kitokios įdomios medžiagos. Muziejuje vyksta susitikimai su įžymiais gudų rašytojais, menininkais, konferencijos, seminarai, gudų literatūros pamokos.

У сярэдняй школе імя Францыска Скарыны развіта пазашкольная дзейнасць. Сярод ініцыятыў школьнікаў можна вылучыць такія, як “Зялёны клён” (экалагічны клуб, што з’яўляецца самастойнай добраахвотнай арганізацыяй), ансамблі “Лянок” і “Журавінка”, школьны часопіс. Цікавым фактам з’яўляецца і тое, што намаганнямі школьнікаў і ўдзельнікаў экалагічнага клуба сабрана вялікая калекцыя кактусаў, аснову якой складае калекцыя, перададзеная нашчадкамі Юрыя Зімніцкага, кіраўніка хора клуба аматараў беларускай народнай творчасці “Сябрына”.

Pranciškaus Skorinos mokykloje išplėtota užklasinė veikla. Tarp moksleivių iniciatyvų išskirtinos tokios kaip „Žalias klevas“ (aplinkosaugos klubas, kuris yra savarankiška savanoriška organizacija), ansambliai „Lianok“ ir „Žuravinka“, mokyklos žurnalas. Įdomus faktas, kad mokinių ir ekologinio klubo pastangomis surinkta didelę kaktusų kolekcija. Jos pagrindą sudaro Jurijaus Zimnickio, buvusio gudų liaudies kūrybos mėgėjų choro „Siabryna“ vadovo, giminaičių perduota kolekcija.



Заняткі ў першым класе
Pamokos pirmoje klasėje

Ёсць у Вільні яшчэ адно месца, якое звязана не толькі з беларускай адукацыяй, але і беларускім духоўным жыццём. На вуліцы Жыгімонту (Žygimantų g.12), непадалёк ад Зялёнага маста, знаходзяцца тры аднапавярховыя жылыя дамы. У 30-я гады XX ст. яны былі набытыя княгіняй Магдаленай Радзівіл і перададзеныя ў карыстанне манаскаму ордэну марыянаў. У 1936-38 гг. плябанам Дому марыянаў быў выбітны беларускі каталіцкі публіцыст і паэт айцец Язэп Германовіч. Сярод знакамітых студэнтаў Германовіча быў і будучы біскуп, а таксама беларускі святар, Чэслаў Сіповіч. У 1938 годзе студэнты-марыяне і іх выкладчыкі па загаду польскіх уладаў былі выселеныя і вымушаныя выехаць з Вільні.

Vilniuje yra dar viena vieta, susijusi ir su gudų švietimu, ir su dvasinu gudų gyvenimu. Žygimantų gatvėje, netoli Žaliojo tilto, stovi trys vienaukščiai namai. Trečiąjį XX a. dešimtmetį juos nupirko Radvilų giminės kunigaikštienė Magdalena ir perdavė brolių marijonų vienuolių ordinui. 1936-1938 m. marijonų namų klebonu buvo garsus gudų katalikų leidėjas ir poetas tėvas Juozapas Hermanovičius. Hermanovičiaus studentai buvo daugelis garsių veikėjų, tarp jų ir garsus gudų kunigas ir vyskupas Česlovas Sipovičius. 1938 m. lenkų valdžios įsakymu studentai marijonai ir jų dėstytojai buvo iškeldinti iš šių namų ir turėjo išvažiuoti iš Vilniaus.




Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт. Навучальны корпус
Europos humanitarinis universitetas. Studijų korpusas

Прыватная навучальная ўстанова “Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт” была створана ў Мінску ў 1992 годзе.

Тады гэта быў толькі рамантычны адукацыйны эксперымент невялічкай групы інтэлектуалаў.

Высокакваліфікаваныя і вядомыя выкладчыкі, 8 факультэтаў, 13 спецыяльнасцей, выдатная бібліятэка, культурныя акцыі, міжнародныя навуковыя канферэнцыі і семінары, развітае супрацоўніцтва з партнёрамі ў Еўразвязе зрабіла ЕГУ адным з флагманаў сучаснай беларускай адукацыі і паставіла  ў адзін шэраг з нацыянальнымі лідэрамі інтэрнацыяналізацыі і лібералізацыі ўніверсітэцкай адукацыі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Privati švietimó įstaiga „Europos humanitarinis universitetas“ buvo įkurta Minske 1992 metais.

Tuomet tai tebuvo romantinis edukacinis nedidelės intelektualų kuopelės eksperimentas. Tačiau ilgainiui universitetas pelnė garbingą vietą tarp Vidurio Rytų Europos lyderių liberalizuojant universitetinį ugdymą ir keliant jį į tarptautinį lygmenį.

Aukštos kvalifikacijos dėstytojai, 8 fakultetai, 13 specialybių, gera knygų kolekcija bibliotekoje, kultūros akcijos, tarptautinės mokslinės konferencijos ir seminarai, išplėtotas bendradarbiavimas su partneriais Europos Sąjungoje ir daug kas kita pavertė EHU šiuolaikinio gudų aukštojo mokslo pirmūnu.

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт не мог не стаць ахвярай рэпрэсіўнай палітыкі беларускіх уладаў. Выступаючы перад студэнтамі ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце 23 верасня 2004 г., прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ЕГУ рыхтаваў новую нацыянальную эліту, якая павінна была павесці краіну на Захад. Еўрапейская будучыня Беларусі знаходзіцца, такім чынам, у супярэчнасці з планамі прэзідэнта.

Напярэдадні гэтага выступу інфраструктура ЕГУ была амаль цалкам падарваная, бо летам таго ж году Міністэрства адукацыі загадала вызваліць будынак ад размешчанага там універсітэта.

EHU negalėjo netapti represyvios Gudijos valdžios politikos auka. Kreipdamasis į Bresto valstybinio universiteto studentus 2004 m. rugsėjo 23-ąją, šalies prezidentas Aliaksandras Lukašenka pareiškė, kad EHU rengė naują šalies elitą, kuris turėjo atvesti šalį į Vakarus, ir tuo parodė, kad europinė Gudijos ateitis kertasi su prezidento planais.

Jau prieš šią kalbą EHU infrastruktūrai buvo suduotas lemiamas smūgis, nes tų pačių metų vasarą Švietimo ministerija liepė universitetui kraustytis iš užimamų patalpų.




Закрыццё ЕГУ
EHU uždarymas

Афіцыйныя ўлады рознымі шляхамі ціснулі на акадэмічную супольнасць універсітэта. Спрабавалі прымусіць рэктара ЕГУ падаць у адстаўку. Пасля няўдалых спробаў улада змяніла тактыку і з дапамогай розных міністэрстваў ды судоў пазбавіла студэнтаў магчымасці вучыцца, а выкладчыкаў – выкладаць.

Актыўны ціск улады справакаваў супраціў выкладчыкаў ды студэнтаў. Шматлікія студэнцкія акцыі пратэсту пракаціліся па Мінску, але гэта не дапамагло, і ў 2004 годзе ЕГУ быў зачынены.

Вытрымка з адкрытага ліста рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, акадэміка Анатоля Міхайлава:

*“2004 год адзначыўся драматычнымі падзеямі ў кароткім і без таго далёка не простым жыцці Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Да апошняга моманту не хацелася верыць у тое, што ўлады вырашацца пайсці на такі безразважны крок, у выніку якога будзе нанесена непапраўная шкода прэстыжу краіны ва ўсім цывілізаваным свеце. І тым не менш, гэта здарылася. З гэтага часу Беларусь пачалі называць “краінай, у якой зачыняюць універсітэты”.*

Oficiali valdžia įvairiais būdais spaudė akademinę universiteto bendruomenę, mėgino priversti EHU rektorių atsistatydinti. Po nevykusių bandymų valdžia pakeitė taktiką ir kelių ministerijų ir teismų padedama atėmė iš studentų galimybę studijuoti, o iš dėstytojų – dėstyti.

Aktyvus valdžios spaudimas išprovokavo dėstytojų ir studentų pasipriešinimą. Per Minską nuvilnijo studentų protesto akcijos, tačiau tai nepadėjo. 2004-aisiais EHU buvo uždarytas.

Ištrauka iš EHU rektoriaus akademiko Anatolijaus Michailovo (Anatoli Mikhailov) atviro laiško:

*„2004-ieji paliko dramatišką pėdsaką trumpame ir šiaip toli gražu nelengvame EHU gyvenime. Iki paskutinės akimirkos nesinorėjo tikėti, jog valdžia ryšis tokiam neapgalvotam žingsniui, dėl kurio bus padaryta nepataisoma žala šalies prestižui visame civilizuotame pasaulyje. Ir vis dėlto tai nutiko. Nuo šiol Gudiją pradėta vadinti „šalimi, kur uždaromi universitetai“.*

Пасля закрыцця ў Мінску Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт здолеў аднавіць сваю дзейнасць у Літве, і ўвосень 2005 года распачаў рэалізацыю праграм бакалаўрскай і магістарскай падрыхтоўкі для студэнтаў з Беларусі. У лютым 2006 года ўрад Літвы надаў ЕГУ статус літоўскага ўніверсітэта.

Адраджэнне ЕГУ ў Літве стала магчымым дзякуючы палітычнай, арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы літоўскага ўраду, Еўрапейскай камісіі, Рады Міністраў Паўночных краін, шматлікім фондам і недзяржаўным арганізацыям, а таксама ўрадам Бельгіі, Германіі, Фінляндыі, Ірландыі, Люксембургу, Нарвегіі, Швецыі і ЗША.

EHU atnaujinti veiklą sugebėjo Lietuvoje. 2005-ųjų rudenį studentams iš Gudijos buvo pasiūlytos bakalauro ir magistro pakopų studijų programos. 2006-ųjų vasarį Lietuvos Vyriausybė suteikė EHU Lietuvos universiteto statusą.

EHU atgimti Lietuvoje leido politinė, organizacinė ir finansinė Lietuvos Vyriausybės, Europos Komisijos, Šiaurės šalių ministrų tarybos, daugelio fondų ir nevyriausybinių organizacijų, taip pat Belgijos, Vokietijos, Suomijos, Airijos, Liuksemburgo, Norvegijos, Švedijos ir JAV vyriausybių parama.

ЕГУ прапануе поўны цыкл універсітэцкай адукацыі – дзённыя і завочныя праграмы бакалаўра і магістра, праграмы дактарантуры, а таксама шырокія магчымасці дадатковай адукацыі ў выглядзе курсаў дыстанцыйнага навучання.

Спіс бакалаўрскіх навучальных праграм (на 2012 г.):

1. Міжнароднае права.
2. Медыі і камунікацыя. Масавыя камунікацыі і журналістыка.
3. Медыі і камунікацыя. Візуальная культура.
4. Культурная спадчына і турызм.
5. Тэорыя і практыкі сучаснага мастацтва.
6. Паліталогія і еўрапейскія даследаванні.
7. Візуальны дызайн і медыі.
8. Сацыялогія.

ЕГУ ажыццяўляе магістарскую падрыхтоўку ў межах наступных праграм (на 2012 год):

1. Гістарычная і культурная спадчына.
2. Міжнароднае права і еўрапейскае права.
3. Публічная палітыка.
4. Культурныя даследаванні. Гендэрныя даследаванні.
5. Культурныя даследаванні. Візуальныя і культурныя даследаванні.
6. Культурныя даследаванні. Крытычныя гарадскія даследаванні.
7. Бізнэс-адміністраванне.

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт таксама прапануе навучанне па асобных дыстанцыйных курсах з мэтай павышэння кваліфікацыі па цэлым шэрагу спецыяльнасцяў.

EHU siūlo visą universitetinio aukštojo mokslo ciklą – nuolatines ir ištęstines bakalauro ir magistro studijas, doktorantų programas, taip pat įvairias papildomo švietimo galimybes nuotolinio mokymo būdu.

Bakalauro studijų programų sarašas (2012 m.):

1. Tarptautinė teisė,
2. Žiniasklaida ir komunikacija. Masinė komunikacija ir žurnalistika,
3. Žiniasklaida ir komunikacija. Vizualinė kultūra,
4. Kultūros paveldas ir turizmas,
5. Šiuolaikinio meno teorija ir praktikos,
6. Politikos mokslai ir Europos studijos,
7. Medijos ir vizualinis dizainas,
8. Sociologija.

EHU rengia magistrus pagal šias studijų programas (2012 m.):

1. Istorijos ir kultūros paveldas,
2. Tarptautinė teisė ir Europos teisė,
3. Viešoji politika,
4. Kultūros studijos. Lyčių studijos,
5. Kultūros studijos. Vizualumo ir kultūros studijos,
6. Kultūros studijos. Kritinės miesto studijos,
7. Verslo administravimas.

EHU taip pat siūlo atskirus nuotolinius kvalifikacijos kėlimo kursus įvairių specialybių atstovams.




Офіс ЕГУ ў 2005–2008 гг.
EHU būstinė 2005–2008 m.




Офіс ЕГУ з 2008 г.
EHU būstinė nuó 2008 m.

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт здолеў захаваць добры выкладчыцкі склад пры пераездзе ў Вільню. За час дзейнасці ЕГУ ў Літве з’явіліся два навуковыя цэнтры: Цэнтр гендэрных даследаванняў і Цэнтр даследаванняў па філасофскай антрапалогіі “Топас”. Працуе інстытут гістарычных даследаванняў Беларусі. Ажыццяўляюцца рознага кшталту адукацыйныя і навуковыя праекты. Праходзяць міжнародныя канферэнцыі, семінары і круглыя сталы. Стала выдаюцца кнігі, пераклады, перыядычныя выданні.

EHU, persikrausčius į Vilnių, pavyko išsaugoti didžiąją dalį dėstytojų Per veiklos Lietuvoje metus EHU atsirado du mokslo centrai: Lyčių studijų centras ir Filosofijos antropologijos tyrimų centras „Topos“. Veikia Gudijos istorijos tyrimų institutas. Vykdomi įvairaus pobūdžio švietimo ir mokslo projektai. Vyksta tarptautinės konferencijos, seminarai ir apskritieji stalai. Nuolat leidžiami vertimai, originalios knygos ir periodiniai leidiniai.



Адкрыццё навучальнага года ў ЕГУ. 2011 г.
Mokslo metų atidarymas EHU. 2011

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт – буйны цэнтр беларускага моладзевага жыцця ў Вільні. У 2010-2011 н.г.  у ЕГУ навучалася прыкладна 1700 студэнтаў. Студэнцкае прадстаўніцтва рэгулюе пытанні, звязаныя з самымі рознымі нюансамі студэнцкага жыцця,  удзельнічае ў працы шэрагу асноватворных органаў кіравання ўніверсітэта: Сенат, стыпендыяльная камісія і іншыя. Студэнцкае прадстаўніцтва мае ўласны фінансавы фонд для падтрымкі студэнцкіх праектаў і правядзення разнастайных мерапрыемстваў.

У Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ёсць і сваё выдавецтва. Яно было заснавана яшчэ ў Мінску ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Асноўны аб’ём літаратуры, які выпускаецца выдавецтвам, складаюць навучальныя і навуковыя выданні. Прыярытэтам з’яўляюцца даследаванні і пераклады ў галіне філасофіі, мастацтвазнаўства, гісторыі, літаратуразнаўства, правазнаўства і іншыя. Выдавецкая дзейнасць ахоплівае не толькі ўвесь спектр дысцыплін, прадстаўленых у ЕГУ, але і шырокую сферу сучасных гуманітарных ведаў.

У ЕГУ ёсць свае навуковыя часопісы: «Topos» – вызначаецца філасофска-культуралагічнай скіраванасцю; «Перекрёстки» – даследуюць усходнееўрапейскае памежжа; тэматыка «Цайтшрифта» – габрэйская гісторыя, дэмаграфія, эканоміка, літаратура, мова і этнаграфія.

EHU yra svarbus gudų jaunimo gyvenimo centras Vilniuje. 2010-2011 mokslo metais EHU studijavo apie 1700 studentų. Studentų atstovybė reguliuoja klausimus, susijusius su įvairiausiomis studentų gyvenimo sritimis. Nustatytos EHU studentų teisės ir pareigos. Be to, studentų atstovybė atstovauja studentus universiteto valdymo organuose: EHU senate, stipendijų komisijoje ir t.t. Studentų atstovybė turi lėšų fondą įvairiems studentų projektams ir renginiams remti.

Europos humanitariniame universitete yra ir sava leidykla, kuri buvo įkurta dar Minske XX a. 9 dešimtmečio viduryje. Pagrindinis leidyklos objektas yra mokomieji ir moksliniai leidiniai. Prioritetiniais laikomi tyrimai ir vertimai šiose srityse: filosofijos, menotyros, istorijos, literatūrologijos, teisės ir kt. Leidykloje leidžiami leidiniai, susiję su EHU dėstomais dalykais, taip pat leidiniai apie šiuolaikinius humanitarinius mokslus.

EHU leidžia savo mokslinius žurnalus: „Topos“ – filosofinės-kultūrologinės pakraipos žurnalą; „Perekriostki“ – žurnalą, tiriantį Rytų Europos paribį; „Caitšrift‘o“ tematika – žydų istorija, demografija, ekonomika, literatūra, kalba bei etnografija.



Пачатак навучальнага года ў ЕГУ. Студэнты першага курса
Mokslo metų pradžia EHU. Pirmo kurso studentai

Міжнародная супраца – істотны чыннік у дзейнасці ЕГУ. Гэта дае ўніверсітэту новыя магчымасці для навуковай, адукацыйнай, грамадскай і іншай дзейнасці. Па стане на 2011 год ЕГУ супрацоўнічае з дзесяткамі еўрапейскіх універсітэтаў, а таксама з'яўляецца ўдзельнікам такіх фундаментальных праектаў, як “Campus Europae” і “Erasmus”.

Еўрапейская камісія і Рада Міністраў Паўночных краін з'яўляюцца галоўнымі фінансавымі донарамі ЕГУ. Універсітэт таксама падтрымліваюць дзесяткі іншых арганізацый, фондаў, міністэрстваў і амбасадаў краін Еўропы і ЗША.

Tarptautinis bendradarbiavimas yra esminis EHU veiklos veiksnys, teikiantis naujų galimybių mokslinei, švietimo, visuomeninei ir kitokiai veiklai. 2011 m. EHU bendradarbiavo su dešimtimis Europos aukštųjų mokyklų, taip pat dalyvavo tokiuose pamatiniuose projektuose kaip „Campus Europae" ir „Erasmus".

Europos Komisija ir Šiaurės šalių ministrų taryba yra pagrindiniai EHU rėmėjai. Universitetą taip pat remia dešimtys kitų organizacijų, fondų, ministerijų ir Europos šalių bei JAV ambasadų.

**Для напісання кнігі былі выкарыстаны наступныя крыніцы / Šaltiniai, pagelbėję rengiant šią knygą:**


1. **Vilnius University**: www.vu.lt/en/about-us/history [online 20.09.2011, 16:19].
2. **Адамковіч Аляксандр.** Беларусы ў Літве: учора і сёння. Вільня: Таварыства беларускай культуры, 2010.
3. **Уладзімер Арлоў.** Імёны Свабоды. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе.) 2-е выд. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2009.
4. **Віленская сярэдняя школа імя Францыска Скарыны**: www.skorina.info [online 19.08.2011, 18:30].
5. **Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт**: www.ehu.lt [online 17.09.2011, 13:06].
6. **Луцкевіч Лявон.** Вандроўкі па Вільні. Вільня: Рунь, 1998.
7. **Плыгаўка Лілія.** Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны аспекты. Манаграфія. Vilnius: VPU leidykla, 2009.


**Фотаздымкі / Nuotraukos:**

Фотаархіў ЕГУ / EHU fotoarchyvas

**Працоўная група выказвае шчырую падзяку ў дапамозе па падрыхтоўцы дадзенага выдання:**
– дырэктару Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры філалагічнага факультэта Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі, доктару, дацэнту *Лілеі Плыгаўцы*;
– выкладчыку Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, беларускаму літаратару, мастацтвазнаўцу і культуролагу *Сяргею Харэўскаму*;
– беларускаму грамадскаму дзеячу *Артуру Яўмену*.

**Darbo grupė už pagalbą rengiant leidinį, nuoširdžiai dėkoja:**
– LEU Filologijos fakulteto Baltarusių kalbos, literatūros ir etnokultūros centro direktorei doc. dr. *Lilejai Plyhaukai*.
– Europos humanitarinio universiteto dėstytojui, gudų rašytojui, meno ir kultūros tyrėjui *Siargejui Chareuskiui*.
– Gudų visuomenės veikėjui *Arturui Jaūmenui*.

*Выданне стала магчымым дзякуючы фінансавай падтрымцы Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, міжнароднага грамадскага аб’яднання “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, а таксама падтрымцы часопіса “Apžvalga”.*

*Išleisti leidinį finansiškai padėjo Europos humanitarinis universitetas ir pasaulio gudų bendruomenė „Backaūščyna“, taip pat žurnalas “Apžvalga”.*


МГА “Згуртаванне беларусаў свету
“Бацькаўшчына”




Apžvalga

**Працоўная група / Darbo grupė:**

Кіраўнік праекту і аўтар тэкстаў / Projekto vadovas ir tekstų autorius:
*Кірыл Атаманчык / Kirylas Atamančykas*
Фота / Foto:
*Марта Герашчанка, Алена Міхайлава / Marta Heraščanka, Elena Mikhailava*
Дызайн / Dizainas:
*Вольга Лучанок / Olga Lučanok*
Пераклад на літоўскую мову / Vertimas į lietuvių kalbą:
*Вадзім Вілейта / Vadzimas Vileita*
Карэктура тэкстаў / Tekstų koregavimas:
*Лілея Плыгаўка, Даля Камінскене / Lileja Plygauka, Dalia Kaminskienė*
Вёрстка / Maketavimas:
*Алег Малевіч / Alehas Malevičius*

Выданні серыі “Беларускія старонкі Вільні” выпушчаны адмыслова для азнаямлення як беларусаў, так і літоўцаў з гісторыяй і сучасным станам жыцця беларусаў на Віленшчыне. Дзве мовы (беларуская і літоўская), фотаздымкі ды мапы-схемы дадуць дадатковыя магчымасці ў пошуку прысутных у выданнях мясцінаў, установаў і іншую разнастайную інфармацыю.

Leidinių serija „Vilniaus gudų puslapiai” išleista tam, kad ir lietuviai, ir gudai galėtų daugiau sužinoti, kaip šiuo metu Vilniuje sekasi gyventi gudams. Dvi kalbos (gudų ir lietuvių), nuotraukos ir žemėlapiai suteiks daugiau galimybių rasti leidiniuose minimas vietoves, įstaigas bei kitą naudingą informaciją.